# Андрэй Федарэнка

*Андрэй Федарэнка нарадзіўся 17 студзеня 1964 года ў вёсцы Бярозаўка Мазырскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў Мазырскі політэхнічны тэхнікум, бібліятэчны факультэт Мінскага інстытута культуры (1985–1990). Працаваў мулярам у пасёлку Мікашэвічы Лунінецкага раёна, на чыгунцы ў Калінкавічах Гомельскай вобласці, старшым бібліятэкарам Бярозаўскай бібліятэкі № 2 Мазырскага раёна, карэктарам штотыднёвіка «7 дней», загадчыкам аддзела навукі і мастацтва часопіса «Полымя», на кінастудыі «Беларусьфільм». З 2005 года – загадчык аддзела прозы ў часопісе «Маладосць».*

*Першыя публікацыі (апавяданні «Сачыненне», «Пісьмо») з'явіліся ў 1987 годзе ў часопісе «Маладосць». Друкаваўся ў калектыўных зборніках «Жнівеньскі праспект», «Перад маімі вачыма», у рэспубліканскіх часопісах і газетах. Выдаў кнігі прозы «Гісторыя хваробы» (1989), «Смута» (1994), прыгодніцкія аповесці для дзяцей і юнацтва «Шчарбаты талер» (1999), «Афганская шкатулка» (2002). Аўтар аповесцей «Такое кароткае лета», «Ланцуг» (абедзве 1994), «Вёска» (1995), «Нічые» (2001) і інш., п'ес «Жаніх па перапісцы» (1993), «Багаты кватарант» (1996) і інш. Перакладае з беларускай мовы на рускую.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа (1995) за кнігу «Смута».*

# Багаты кватарант

*П'еса ў трох актах*

## АСОБЫ

А л е с ь  Г а н — студэнт інстытута замежных моў, 25 гадоў.

В а с і л ь  В а с і л ь е в і ч — выкладчык ВНУ (не той, дзе Ган); раней выкладаў «Гісторыю КПСС», цяпер — этыку, эстэтыку, гісторыю культуры — словам, «ва ўсе дзіркі затычка». Разведзены, цяпер у другім шлюбе.

А л е н а  Я ў г е н а ў н а — яго другая жонка, медсястра.

Н а т а ш а — іхняя дачка, студэнтка-першакурсніца (не той ВНУ, дзе Ган, і не той, дзе бацька).

Р ы г о р — мастак-афарміцель, малады, жанаты, з барадою.

*Дзеянне адбываецца ў Мінску*
*ў канцы XX стагоддзя.*

## АКТ ПЕРШЫ

Вялікая кухня, што бываюць у дамах яшчэ «дахрушчоўскай» пабудовы, з высокай столлю, шырокім акном. Сям'я — В а с і л ь  В а с і л ь е в і ч, А л е н а  Я ў г е н а ў н а, Н а т а ш а — вячэрае. На відным месцы прыгожы партрэт Наташы, выкананы ў алеі.

В а с і л ь  В а с і л ь е в і ч *(бярэ са стала пляшку з-пад гарэлкі, бачыць, што ўжо нічога не засталося, ставіць назад, адсоўвае талерку і моўчкі ўстае з-за стала)*. Дзякую.

А л е н а  Я ў г е н а ў н а. Што такое?

В а с і л ь  В а с і л ь е в і ч. Так. Нічога страшнага. Проста дзякую. Наеўся. «Што такое»... Асабліва суп з пельменяў быў смачны. Не адарвацца!

Н а т а ш а *(есць)*. Не заводзься.

А л е н а  Я ў г е н а ў н а *(стомлена, абыякава)*. Вось хам... Была гарэлка — піў, еў і нахвальваў, проста залаты быў.

Н а т а ш а. Не заводзьцеся абое!

Васіль Васільевіч. Я не заводжуся, але трэба меру знаць. «Што такое»... Трэці дзень пельменны суп — вось што такое! Мы хіба ў Сібіры? Гэта наша нацыянальная страва? *(Мацае жывот.)* Мо язва якая...

Алена Яўгенаўна *(зрываецца)*. Жывот баліць?! Ад гарэлкі ён у цябе баліць!

Наташа. Мама!

Алена Яўгенаўна. Ты ж не прасыхаеш днямі! Выкладчык, студэнтаў вучыць! Што я табе згатую на такую зарплату? Адбіўную? Шніцэль па-польску? Дык я і сама хачу паспытаць такога!

Наташа *(бразгае відэльцам, устае)*. Блін, зноў! Ды перастаньце вы! Кожны вечар... Лепш разводзьцеся!

Васіль Васільевіч. «На тваю зарплату»! *(Заводзіцца.)* Дык што мне, жабраваць ісці?! Пад царкву ці ў пераход метро? Ці браць гэты вось нож ды ісці рэзаць каго-небудзь? Ну, бедны, ну, жабрак — затое сплю спакойна!

Алена Яўгенаўна. Асабліва калі паддаты...

Васіль Васільевіч. Я ж казаў — пачакайма трохі! Нешта ды зменіцца! Вось пакойчык здадзім... Мне абяцалі загадчыка кафедры — усё ж павышэнне...

Алена Яўгенаўна. Ай, павышэнне. Цяпер людзі ўмудраюцца зусім нідзе не працаваць, а грошай поўна!

Васіль Васільевіч. Людзі! Людзі вешаюцца, дык што з таго?

Алена Яўгенаўна. І пры тваёй рабоце, калі з розумам, можна грошы мець...

Васіль Васільевіч. Хабар?! Браць са студэнтаў, з гэтых дзяцей, як вось Наташка?!

Алена Яўгенаўна. Не з дзяцей, а з бацькоў...

Васіль Васільевіч. Здохну, жабраваць пайду, а такога...

Наташа. Тата, супакойся. Усё нармальна.

Васіль Васільевіч хоча нешта сказаць, тады махае рукою і выходзіць.

Алена Яўгенаўна *(апусціўшы галаву, стуленая, склаўшы рукі на каленях)*. Вось як жыць, дачушка? Хіба ж мне, дума-

еш, не шкада яго? Я пасівею ўжо хутка ад гэтых думак... І за цябе сэрца разрываецца... Хіба ж я не разумею, не бачу? Ты такая прыгожая, табе ж і апрануцца модна трэба... А тут!.. Расцягваеш гэтыя капейчыны, бегаеш-бегаеш па магазінах, каб хоць дзе танней перахапіць... Васіль співаецца... Я не веру ўжо яму, ніводнаму слову не веру! І пра павышэнне ён хлусіць, ніхто яму загадчыка кафедры не дасць... І ў пакойчык гэты наш не веру, што будзе з гэтай здачы нейкі толк...

Невялікая паўза.

Другі тыдзень — і ніводнага званка! І не прыходзіць ніхто... Ён ці расклеіў абвесткі, Наташа? Ад яго ўсяго можна чакаць.

Наташа. Расклеіў. Я сама бачыла. Каля гастранома і на прыпынку.

Алена Яўгенаўна. Чаму ж нікога няма?

Наташа. Божа, мама, ты ж сама кажаш, цяпер такіх разумных ведаеш колькі? Паў-Мінска. І ўсе здаюць, што можна — хоць камору, хоць балкон — і злупіць за гэта хочуць падаражэй.

Алена Яўгенаўна. Як жа жыць...

Наташа. Я вам даўно раю: прыватызаваць кватэру, размяняць, у аднапакаёўцы жыць усім траім, а двухпакаёўку спакойна здаваць! Усе так робяць. Але ж гэта варухнуцца трэба! Пабегаць! Нам жа няма калі!

Алена Яўгенаўна. Ой, баюся... Патрапіцца які спрытнюга... Адсудзіць... Тады зусім на вуліцы застанемся.

Наташа. Баішся — дык не плач!

Алена Яўгенаўна. Дачушка, гэта ж усё тваё! Тры гэтыя пакоі — усё, што ў нас ёсць! Увесь твой пасаг. Падвернецца харошы хлопец, пажэніцеся, дадзіце нам з бацькам які куток прытуліцца,— а там рабіце, што захочаце! Усё на цябе перапішам. Мы з бацькам вам і на вочы паказвацца не будзем, а вам двух пакояў хопіць вунь як...

Наташа. Добра. Давай чакаць майго замуства.

Алена Яўгенаўна. Каб знайшоўся які кватарант...

Н а т а ш а *(іранічна).* Тады ўжо разбагацеем! Мама, ды калі і знойдзецца, дык такі, як наш, пакойчык пойдзе максімум за пяцьдзесят «баксаў»! Ты разбагацееш на іх?

А л е н а  Я ў г е н а ў н а *(уздыхае).* Мая месячная зарплата...

Н а т а ш а. Кажу — максімум! За добры, вялікі пакой! А за нашую камору — дзесятка за шчасце!..

Званок у дзверы. Маці з дачкою пачынаюць прыбіраць са стала. Чуюцца галасы Васіля Васільевіча і Рыгора.

А л е н а  Я ў г е н а ў н а. Прыцягнуў ужо... Калі з бутэлькаю — вылецяць абодва!

Н а т а ш а. Ды на мяне ён паглядзець прыходзіць.

А л е н а  Я ў г е н а ў н а. З жонкаю трэба сядзець, дома, а не цягацца на маладых дзяўчат глядзець! Намаляваў вунь *(ківае на партрэт)*, і дзякуй — няма чаго цягацца сюды.

Н а т а ш а. Ды хай ходзіць. Ён бяскрыўдны.

З'яўляюцца В а с і л ь  В а с і л ь е в і ч  і  Р ы г о р. Апошні, вясёлы, падыходзіць і цалуе жанчынам ручкі — перш Алене Яўгенаўне, тады Наташы — трохі даўжэй, чым трэба.

А л е н а  Я ў г е н а ў н а *(выцірае руку аб фартух).* Здароў, здароў... Пляшкі там не прынёс у кішэні? Бо тады выганю абодвух.

Р ы г о р *(дэманстратыўна выварочвае кішэні).* Я не пляшку, а добрую навіну вам прынёс, Алена Яўгенаўна. Можа, пачуўшы, вы нам з Васільевічам па сто грамаў паставіце?

А л е н а  Я ў г е н а ў н а. Зараз, разагналася.

Р ы г о р. Я знайшоў вам кватаранта.

А л е н а  Я ў г е н а ў н а *(зацікаўлена).* Ну-ну, сядай! *(Падсоўвае крэсла.)* Дзе знайшоў? Хто такі? Адзін? З сям'ёю?

Р ы г о р. Адзін. Студэнт інстытута замежных моў, англійскае аддзяленне. З выгляду акуратны, хударлявенькі, ціхі, культурны, разумны... Пагаварылі так, пра жыццё, пра мастацтва...

А л е н а  Я ў г е н а ў н а. Дзе ж ты яго знайшоў, такога добрага?

Р ы г о р. Каля піўнога кіёска пазнаёміліся. Піва пілі разам.

Алена Яўгенаўна. Усё зразумела. Піва яны пілі! І ты збіраешся яго сюды прывесці?

Рыгор. Яўгенаўна! Чаму вы мне ніколі не давяраеце? Мне, можа, нават трохі крыўдна, пры Наташы... Пілі піва, разгаварыліся, тое ды сёе, ён спытаў, дзе б зняць пакойчык. Я кажу так і так, ёсць пакойчык, здаюць людзі культурныя, гаспадыня — медработнік, гаспадар — вучоны, дацэнт, дачка — студэнтка...

Васіль Васільевіч. Рыгор, наконт аплаты скажы!

Рыгор. Грошай, ён сказаў, не пашкадуе і заплаціць добра.

Наташа. Добра для студэнта — сума вельмі размытая.

Рыгор. Што вы з усяго праблему робіце? Пазвоніць ён ці сам прыйдзе — паглядзіце, пагаворыце... Не спадабаецца — да пабачэння!

Васіль Васільевіч. І праўда, Лена... З каго нам выбіраць?

Алена Яўгенаўна. Хай прыходзіць, я ж не супраць. Калі ты з ім гаварыў?

Рыгор. Сёння. Пад вечар ён абяцаў пазваніць вам ці пад'ехаць...

Алена Яўгенаўна. Так? Трэба прыбрацца хоць трохі... Бо там пылу ў пакойчыку... *(Выходзіць.)*

Рыгор. Наташа, а ты куды?

Наташа. У туалет. Зараз вярнуся. *(Выходзіць.)*

Васіль Васільевіч *(услед)*. І не сорамна?

Рыгор *(смяецца)*. Што ж тут саромнага, калі сапраўды захацелася! Малайчына, Наташка,— усе свае людзі! Натуральнасць заўсёды сімпатычная. Іншая пачала б ламацца — «пайду ручкі памыю ў ванную» ці «вады пап'ю»...

Васіль Васільевіч *(шэптам)*. Нічога не прынёс?

Рыгор разводзіць рукі. Наташа вяртаецца.

Давай хоць гарбаткі вып'ем? Дачка, зрабі нам гарбаты.

Наташа пачынае заварваць гарбату.

Дык сказаў, добра заплачу? Студэнты цяпер розныя бываюць...

Р ы г о р. Наташа, а ў вас у групе хлопцы багатыя?

Н а т а ш а. Усялякія.

Р ы г о р. А многа хлопцаў?

Н а т а ш а. Хапае.

Р ы г о р. Наташка, а калі б я развёўся, пайшла б за мяне?

Н а т а ш а *(фліртуе).* Развядзіся спачатку, згалі бараду, разбагацей, стань лаўрэатам якой парыжскай выставы — тады паглядзім.

В а с і л ь  В а с і л ь е в і ч. Рыгор, ты, гэта самае... Жанаты чалавек. Пры бацьку тут... Гэта ж дзіця...

Тэлефонны званок. Голас Алены Яўгенаўны. Праз хвіліну яна ўваходзіць, механічна кідаецца перастаўляць штосьці на стале.

А л е н а  Я ў г е н а ў н а. Пазваніў! Стаю, кажа, каля пад'езда, зараз падымуся!

Паўза. Усе чакаюць. Званок у дзверы. А л е н а  Я ў г е н а ў н а выбягае і хутка з'яўляецца разам з Г а н а м. У таго ў руках невялікая спартыўная сумка.

Г а н *(весела, аглядваючы ўсіх і ўсё).* Добры дзень... ці вечар ужо? *(Убачыўшы Рыгора.)* А, і ты тут?

Р ы г о р. Вось прыйшоў. Ужо трохі расказаў пра цябе...

Г а н. Тым лепш.

Ставіць сумку, знаёміцца з Васілём Васільевічам, Наташаю. Яго запрашаюць прысесці. Паўза, бо не ведаюць, хто першы павінен штосьці казаць. Рыгор бярэ ініцыятыву на сябе.

Р ы г о р *(жартуючы).* Як па-англійску «давай вып'ем»?

Г а н. Лэтс хэв э дрынк.

Р ы г о р. О, як доўга! Малайчына, ведаеш.

А л е н а  Я ў г е н а ў н а. Вы на якім курсе?

Г а н. На апошнім.

В а с і л ь  В а с і л ь е в і ч. Разумею. На апошнім курсе, відаць, вам інтэрната не даюць?

Г а н. Не, тут іншае... Інтэрнат даюць. Але, ведаеце, шум, тлум... Выпіўкі. А я цягну на чырвоны дыплом, хачу спакойна давучыцца.

А л е н а  Я ў г е н а ў н а. І правільна робіце!

Невялікая паўза.

Га н. Дык я хацеў бы...

А л е н а  Я ў г е н а ў н а. Так, так — хадземце, паглядзіце, дзе ў нас і што... Ці падыдзе вам?

Выходзяць а б о е.

Н а т а ш а. Нейкі ён... Не падабаецца мне!

Р ы г о р. Ты нібы жаніха выбіраеш. Хаця, прызнацца, цяпер і сам бачу... Ёсць у ім нешта... Няпростае, слізкае... Самаўпэўнены нейкі. А там, каля піўной, быў такі ціхенькі...

В а с і л ь  В а с і л ь е в і ч. Хай паглядзіць, і мы паглядзім. Даць паварот ніколі не позна. Галоўнае, калі і колькі заплаціць?

Вяртаюцца А л е н а  Я ў г е н а ў н а  і  Га н.

Га н. Мне вельмі спадабалася ў вас. Пакойчык цудоўны. Людзі вы прыемныя...

А л е н а  Я ў г е н а ў н а *(задаволеная)*. А вы жылі калі-небудзь на кватэры? Ці толькі ў інтэрнаце?

Га н. Два разы наймаў пакоі ў чужых людзей.

А л е н а  Я ў г е н а ў н а. Дык у вас вопыт! Бо ў сям'і, самі ведаеце, усялякае бывае... І крыкнеш, і пасварышся трохі...

Га н. Мне гэта не будзе замінаць.

Невялікая паўза.

В а с і л ь  В а с і л ь е в і ч *(пакашляўшы)*. Ну, калі вам спадабалася, дык, з вашага дазволу, колькі б вы...

Н а т а ш а. З гэтага трэба пачынаць!

В а с і л ь  В а с і л ь е в і ч. Давайце, так сказаць, прыземлімся... Колькі?

Га н. Тое самае я хачу спытаць у вас. Справа ў тым, што я ўжо даўнавата жыву ў інтэрнаце і даволі цьмяна арыентуюся ў цяперашніх кватэрных цэнах. Ведаю, што залежыць ад метраў квадратных, ад раёна, ад таго, ці ёсць тэлефон,— але...

Н а т а ш а *(перабівае).* Пяцьдзесят!

Га н. Што пяцьдзесят?

Н а т а ш а. Даляраў, хлопчык, даляраў!

А л е н а   Я ў г е н а ў н а *(дакорліва).* Дачушка!.. *(Да Гана.)* Можна трыццаць... Але калі і гэта многа, можна...

Р ы г о р. Нічога не многа. Пяцьдзесят «баксаў» за пакой — звычайная сума.

Га н. Я зразумеў. Мне так у вас тут спадабалася, што я гатовы заплаціць не пяцьдзесят, а... скажам, сто.

Паўза. Усе пераглядваюцца.

Н а т а ш а. Што... сто?

Га н *(у тон ёй).* Даляраў, дзяўчынка.

Н а т а ш а. У... месяц?

Га н. Кожны месяц па сто.

Невялікая паўза.

Р ы г о р *(чухае патыліцу).* Во студэнты пайшлі!

А л е н а   Я ў г е н а ў н а *(пачынае мітусіцца).* Ой, а што ж мы сядзім? Гарбаты не п'ем? Ці, можа, кавы вам?

Га н. Можна і кавы.

В а с і л ь   В а с і л ь е в і ч выходзіць. Наташа не спускае з Гана вачэй. Рыгор заўважае гэта, круціцца.

Р ы г о р. Хоць што — сто даляраў, падумаўшы, не такія ўжо і грошы... Звычайны кошт... Пакой утульны, людзі інтэлігентныя... З тэлефонам...

Га н. А сапраўды, я ж забыў пра тэлефон! Праўда, сам я вельмі рэдка каму званю, і мне ніхто не звоніць... Але за тэлефон варта накінуць яшчэ пяцьдзесят.

Алена Яўгенаўна застывае, потым хутка пачынае разліваць у пяць кубкаў прыгатаваную каву. З'яўляецца В а с і л ь   В а с і л ь е в і ч, у касцюме, на хаду папраўляючы гальштук, сядае за стол. Алена Яўгенаўна сядае паміж Ганам і Рыгорам.

Вось, за месяц уперад... Сто пяцьдзесят. *(Дастае з кішэні пачак даляраў, адлічвае пятнаццаць дзесятак, кладзе на стол.)*

Рыгор бярэ купюры, размінае кожную, перагінае, углядаецца, шамаціць каля вуха, шкрабе пазногцем.

Рыгор. Сапраўдныя...

Алена Яўгенаўна. Дай сюды! *(Забірае, трымае ў руцэ, не ведаючы, ці так сядзець, ці ўстаць і пайсці гэтыя даляры некуды схаваць.)*

Васіль Васільевіч. Так... Дзякую вам!.. Ага... Лена! Я хацеў сказаць... Можа, кавай тут не абыдзецца?

Ган *(смяецца)*. Лэтс хэв э дрынк?

Усе па-падхалімску смяюцца, акрамя Наташы.

Рыгор. Ды я збегаю!

Ган. У мяне з сабою. Калі гаспадыня не будзе супраць...

Алена Яўгенаўна. Я? Не! Наадварот! Абавязкова трэба адзначыць... такое...

Ган дастае з сумкі пляшку гарэлкі.

Наташа!

Наташа слухаецца, устае, пачынае ставіць каля кожнага чаркі. Сама Алена Яўгенаўна таксама ўстае, выходзіць і хуценька вяртаецца — выходзіла хаваць грошы; сядае. Сядае і Наташа. Рыгор адкаркоўвае пляшку і налівае.

Ган *(пакуль робіцца ўсё гэта)*. Яўгенія... прабачце...

Алена Яўгенаўна *(гулліва)*. Алена Яўгенаўна!

Ган. Я, Алена Яўгенаўна, калі шчыра, стаміўся... Можна, я пасяджу трохі за кампанію і паеду? А ўжо заўтра перабяруся.

Алена Яўгенаўна. Вядома! Рабіце, як вам зручней!

Ган. Скарб у мяне небагаты — кнігі, рэчы... Дарэчы, пасцельная бялізна таксама свая, ручнікі — для ваннай і кухні, так што наконт гэтага не турбуйцеся. На кватэрах, я казаў ужо, жыў, ніхто не скардзіўся. Ванну за сабою мыю, міскалыжка-кубак, як у таго салдата, свае і пры сабе, з пакоя без асаблівай прычыны вытыркацца не буду...

А л е н а  Я ў г е н а ў н а. Ды што вы ўсё апраўдваецеся? Выходзьце на кухню, у ванную — калі ласка. Бачыце, якая тут кухня? У футбол можна гуляць.

В а с і л ь  В а с і л ь е в і ч *(смеючыся; таксама хоча пагаварыць)*. Можа, нам, Лена, на кухню перайсці жыць, а другі пакой яшчэ каму здаваць? *(Вінавата кашляе ад позірку жонкі.)*

Р ы г о р. Доўга мы грэць будзем?

Выпіваюць усе, акрамя Наташы; яна толькі пакручвае ў пальцах чарачку і ставіць яе зноў на стол.

А л е н а  Я ў г е н а ў н а *(выдыхнуўшы, гонячы далоняй у рот паветра)*. Каб... ох... усё добра было, каб вам спадабалася тут!

Г а н. А мне ўжо спадабалася.

Закусваюць.

Р ы г о р. Дык ты кажаш, пажыў па кватэрах? Чаму ж нідзе не прыжываўся?

Г а н. Ды я ўсяго два разы і жыў на чужых кватэрах. У першай была цудоўная гаспадыня, брала мала, ветлівая такая, добрая, чырванела вечна... Баялася чамусьці мяне... І паважала. Удава. Паводзіла так сябе, быццам не я ў яе, а яна ў мяне ў кватарантках.

Усе смяюцца, Наташа чмыхае. Рыгор зноў налівае.

І што вы думаеце? Аказалася, у яе быў палюбоўнік, яны збіраліся ажаніцца, пачаў ён раўнаваць — маўляў, чаго ён, гэта значыць я, тут жыве... Ну, і давялося сыходзіць.

Р ы г о р *(ужо не смяецца, а рагоча)*. «Пачаў раўнаваць»! Ну ты кадр, хлопец!

Г а н *(таксама смяецца)*. А другі раз, на другой кватэры, дзіця малое было, плакала часта.

А л е н а  Я ў г е н а ў н а. У нас ціха!

В а с і л ь  В а с і л ь е в і ч. Горш няма для студэнта, як малыя дзеці! Помню, вось нарадзілася *(паказвае на Наташу)*, ну і піскуха была! Як завядзе, проста з рук усё валіцца!

Н а т а ш а. Не трэба было нараджаць.

В а с і л ь  В а с і л ь е в і ч *(расчулены гарэлкаю і ўспамінамі).* Мы ў маласямейцы тады жылі. Яна пішчыць, нам барабаняць па батарэях з усіх канцоў, і зверху і знізу! Пекла!.. І ўсё адно — то былі самыя лепшыя, самыя шчаслівыя гады...

А л е н а  Я ў г е н а ў н а. Маўчаў бы лепш пра тыя гады... Дзве жонкі, двое дзяцей... *(Тлумачыць Гану.)* Ён якраз развёўся тады, я ж другая ў яго.

В а с і л ь  В а с і л ь е в і ч. Хопіць...

Р ы г о р *(п'янейшы і смялейшы).* Саша,— Саша ж цябе завуць?

Г а н. Алесь.

Р ы г о р. Не кіем, дык палкаю. Мы таксама «языкам абучаны», таксама ў «рі́днай мове» разбіраемся...

Г а н *(перабівае, паказвае на партрэт).* Ты маляваў, Рыгор? Цудоўна. Выдатна проста! Заўсёды зайздросціў мастакам, музыкантам, пісьменнікам...

Р ы г о р *(задаволены, пазіраючы то на Наташу, то на партрэт).* Дзякую. Але — ты, Алесь, вядома, не крыўдуй... Яўгенаўна, не наступайце мне на нагу, я ў адных шкарпэтках, баліць жа!.. Хлопец! За сто пяцьдзесят «баксаў» ты мог бы спакойна наняць асобную кватэру! У любым раёне! Тым больш табе тэлефон не патрэбен!

А л е н а  Я ў г е н а ў н а. Чаму ты ўмешваешся?!

В а с і л ь  В а с і л ь е в і ч *(павышаючы тон).* І то праўда. Слухай, Рыгор, ты... Ты ідзі, ідзі памалу дадому!

Р ы г о р. Як кватарантаў шукаць — бягуць па Рыгора. Рыгор знаходзіць, прыводзіць — усё, гуд-бай, твая місія скончана! Так?

А л е н а  Я ў г е н а ў н а. Ты сямейны, жанаты чалавек...

Р ы г о р. Пры чым тут сям'я?.. Я прывёў вам, можна сказаць, за руку гэтага вось Алеся! І хачу ведаць, каго я прывёў! *(Да Гана.)* Ты не крыўдуй, вядома...

Г а н. Ахвотна адкажу. У інтэрнаце мне перашкаджаюць шум і п'янкі. У асобнай кватэры мне было б няўтульна. Адзінока. Можа, нават страшнавата. Я хадзіў бы з кутка ў куток, сланяўся, нічога не лезла б у галаву... Мне трэба адчуваць

жыццё — фізічна: каб галасы прыглушаныя, тэлевізар ціха працуе, посуд бразгае на кухні, вада напускаецца ў ванну... Унітаз, прабачце, час ад часу падае гукі...

Наташа *(перабіваючы)*. Расказвае, як раман піша!

Ган *(смяецца)*. Куды мне! Раманаў я не пішу...

Наташа. Дарэмна. Магло б і атрымацца.

Рыгор. Дайце дагаварыць. Сапраўды, бывае. Утульнасці хочацца, прыляпіцца да жыцця, хоць да чужога... Але, Алесь... Падазрона ўсё! За гэтую ўтульнасць *(паказвае на людзей, паводзіць рукою)* ты мог бы смела заплаціць у чатыры разы менш!

Алена Яўгенаўна *(сыкае)*. Ты замоўкнеш ці не?!

Наташа. Пачакай, мама. Давай паслухаем.

Ган. Калі мне падабаюцца людзі, дык хочацца рабіць ім прыемнае. Гэта не філантропія, а... звычайны эгаізм, меркантыльнасць, разлік: калі я заплачу людзям у чатыры разы вышэй за намінал, дык і адносіны да мяне стануць лепшыя ў чатыры разы. Логіка простая. Можа, папрашу зварыць кавы, можа, калі забуду паабедаць, дык не пасаромеюся, папрашу...

Алена Яўгенаўна. Які сорам?! Хочаце — кожны дзень ешце з намі; праўда ж, Васіль?

Васіль Васільевіч *(цвёрда)*. Праўда. Рыгор, ты канчай гэта!

Алена Яўгенаўна. Цвярозы прыходзь.

Рыгор. Добра — пайду. Але напаследак яшчэ пытанне: адкуль у цябе, студэнта, такія грошы? Ты раскашуеш, кватэры здымаеш — як шляхта, як арыстакрат дзевятнаццатага стагоддзя!..

Ган. Сродкі мне дазваляюць.

Рыгор. Вось я і хачу ведаць — адкуль?! Адкуль у вас, студэнтаў, сродкі; якога хрэна, прабач, вы робіце, адкуль вы іх дастаяце?! Ды такія грошы, якія нам, простым, і не сніліся?!

Невялікая паўза.

Ган *(спакойна ўсміхаючыся)*. Мае сродкі зароблены крывёю і потам. І шчаслівай неспадзяванкаю, выпадковасцю, пра якую я зусім не збіраюся кожнаму расказваць.

А л е н а  Я ў г е н а ў н а *(Рыгору).* Няма чаго чужыя грошы лічыць! Перш свае зарабі... *(Рашуча, Рыгору.)* Усё — па дамах! *(Лагодна, Гану.)* А вы, можа, яшчэ кавы?

Га н. Ну, трошкі, слабай.

Васіль Васільевіч ідзе праводзіць Рыгора.

Р ы г о р *(па дарозе).* Васільевіч, глядзі... Падазроны ён нейкі, чорт!.. Не вер яму...

В а с і л ь  В а с і л ь е в і ч. Ідзі, ідзі!

*Заслона*

## АКТ ДРУГІ

### Карціна першая

Дзень — туманны, веснавы, сыры; вуліца, лаўка, ліхтар, сметніца — каля лаўкі, ззаду — чыгунная агароджа. Н а т а ш а ідзе, следам — Р ы - г о р, і прытрымлівае яе за рукаво.

Р ы г о р. Наташа!

Н а т а ш а *(спыняецца).* Ну што? Я табе ўсё сказала.

Р ы г о р. Я дзве гадзіны мёрз тут, на гэтай лаўцы... А ты не хочаш пастаяць са мною і дзвюх хвілін!

Н а т а ш а. Стаю ж. Ну?

Р ы г о р. Я заходзіў у вестыбюль інстытута, глядзеў расклад... У вас заняткі павінны былі скончыцца дзве гадзіны назад.

Н а т а ш а. «Уляпілі» два лішнія семінары.

Р ы г о р *(бярэ яе за руку).* Сядай, калі ласка, лавачка сухая. Нават нагрэтая...

Наташа сядае, Рыгор стаіць перад ёю.

Наташка, я не бачыў цябе ўжо два тыдні... Знарок не званіў, чакаючы, пакуль ты пазвоніш. А ты... Я ўжо забыў твой голас. І твару твайго не магу ўспомніць...

Н а т а ш а *(пацепвае плячыма ад сырасці, рукі ў кішэнях курточкі).* Вось што, дарагі мой, давай раз і назаўсёды кінем гэтае сюсюканне. Ты — жанаты, у цябе сваё жыццё і... Карацей, больш ніякіх званкоў.

Р ы г о р. А калі б не быў жанаты?

Н а т а ш а. Тое самае было б.

Р ы г о р *(пасміхаючыся нявесела, не гледзячы на яе, быццам сам сабе).* Жанаты. І жанчын, як раней думаў, ведаю на пяць. Былі ў мяне... да жаніцьбы, будуць, відаць, і пасля... Ведаю, але ні чарта не разумею вас! Ну, ніяк! Вас немагчыма зразумець, як вось гэты слуп з ліхтаром не разумееш: стаіць, свеціць, а дзеля чаго — чорт яго разбярэ! Няўжо табе ўсё роўна, што чалавек чакаў цябе дзве гадзіны, чакаў толькі для таго, каб убачыць цябе, пачуць твой голас?! Няўжо табе непрыемна, раздражняе цябе, што цябе... кахаюць?!

Н а т а ш а. Ого! Першы раз чую.

Р ы г о р. Першы. Чуеш першы, але ты ведала гэта. Не магла не ведаць!

Невялікая паўза.

Ведала?

Н а т а ш а. Ведала.

Р ы г о р. Тады чаму ты не хочаш нават слухаць? Табе ж — паводле любой логікі — проста як жанчыне, як дзяўчыне гэта павінна быць цікава!

Н а т а ш а. Што?

Р ы г о р. Ну, ведаць, што цябе кахаюць. Слухаць пра гэта.

Н а т а ш а. Рыгор, блін, ты што, не бачыш? Я стамілася. Галодная. Да таго ж, калі шчыра, я напярод ведаю ўсе твае прызнанні.

Р ы г о р. Бажуся, гэта апошні раз. Пабудзь трошкі, выслухай, і я бажуся, што з гэтага дня перастану «даставаць» цябе, як ты кажаш!..

Наташа глыбока ўздыхае, паказваючы, што яна проста асуджана слухаць.

Наташка *(іншым, мяккім голасам)*, я не веру табе. Хай — ты «крутая». Дзяўчынка. Намнога маладзейшая за мяне. Хай я не падабаюся табе. Але — паўтару — не можа табе не падабацца, што цябе кахаюць! Няважна, хто. Хай жанаты мужчына. Але гэты мужчына ні-чо-га ж ад цябе не просіць, не патрабуе! Толькі званка, толькі пары слоў — «прывітанне», «ну, як ты?», «бывай»... І ўсё! Яшчэ большае шчасце — убачыць цябе хоць раз на тыдзень, хоць паўгадзінкі пагаварыць з табою... Проста пачуць твой голас. Я ж не дабіваюся ад цябе пацалункаў, не дабіваюся нейкай прыхільнасці... Адкажы мне на адно-адзінае пытанне: няўжо хоць адной нармальнай дзяўчыне можа не падабацца, што яе кахаюць, нічога ад яе не патрабуючы?!

Паўза. Наташа маўчыць.

Добра. Тады я скажу, чаму ты не хочаш даць мне нават гэтае нішто...

Н а т а ш а. Рыгор, я проста не хачу нікому нічога даваць. Не хачу — і ўсё.

Р ы г о р *(не слухае, бо хоча выгаварыцца)*. Ты шкадуеш мне нават гэтае нішто — бо хто я? У тваіх вачах? Няўдачнік. Афармоўца сталовых, бібліятэк, ДК і яшчэ чортведама якіх месцаў,— куды запросяць, дзе ўдасца перахапіць... Які ў вольны час нешта малюе для сябе — «мажа»,— нешта абсурднае, авангарднае... Тады тырчыць днямі каля «Мастацкага салона» сярод дзесяткаў такіх, як сам, стараючыся спіхнуць гэтую «мазню» каму-небудзь... За два гады прадаў усяго тры карціны, і то за капейкі,— ты ж ведаеш, я расказваў. На фарбы, на багет больш пайшло, чым атрымаў. У прынцыпе, я жабрак...

Н а т а ш а. Дасталі вы сваім жабрацтвам. Я такое кожны вечар дома чую. Варушыцца трэба, дык жабракамі не будзеце!

Р ы г о р *(не слухае)*. Выставаў сваіх не было, майстэрні няма і невядома калі будзе, сябры — выпускнікі таго ж тэатральна-мастацкага! — даўно ўжо маюць і майстэрні, і выстаўляюцца, і па замежжах ездзяць... А тут — практычна нуль. П’яніца плюс.

Н а т а ш а. Ды перастань ты сам сябе шкадаваць! Ніколі не шкадуй сам сябе пры жанчынах.

Р ы г о р *(не слухае).* Як палюбоўнік — не падыходжу, бо табе хочацца хваліцца перад сяброўкамі, табе трэба купляць падарункі, вадзіць у рэстараны, вазіць на іншамарцы; самому трэба адзявацца, каб табе са мною не сорамна было выйсці на людзі... Як жаніх? У прынцыпе можна было б. Магла б ты выйсці за чалавека, старэйшага за сябе, за беднага мастака?.. Магла б. Але ж жанаты! Зачараванае кола...

Невялікая паўза.

А помніш, Наташка *(Рыгор ажыўляецца)*, ты неяк казала: разбагацей, развядзіся, згалі бараду, стань якімсьці лаўрэатам, звазі мяне ў Парыж — тады паглядзім? Помніш? Значыць...

Н а т а ш а. Ды нічога гэта не значыць. Не выдумляй. Усё ты цудоўна разумееш, сам толькі што распісаў. Правільна: ты не падыходзіш мне ні па адным пункце. *(Глядзіць на гадзіннік.)*

Р ы г о р *(сядае побач).* Наташа, мілая! Што ты кажаш? Калі я не магу быць жаніхом ці палюбоўнікам, дык я для цябе пустое месца?!

Невялікая паўза.

*(Сур'ёзна, умольна.)* Наташа, не праганяй мяне... Я працаваць не магу, мальберт закінуў, мне трэба хоць раз на тыдзень бачыцца з табою... Я ж, як і ўсе мы, мастакі, «шызануты» трохі, містык, веру ў Космас, у светлыя і цёмныя сілы... Мне здаецца, я набіраюся ад цябе нечага светлага, флюідаў добрай энергіі... Я не жартую. Я кахаю цябе не неяк там фізіялагічна, не сексуальна, а...

Н а т а ш а *(ажыўляецца).* Ого! Цікава.

Р ы г о р. Я плёў тут пра жанчын, да жаніцьбы, гэта няпраўда, не было ў мяне нікога... І жонку люблю — не здраджваў ёй, і не здраджу ніколі...

Н а т а ш а. Рыгор, Божа мілы! Што мне да тваіх праблем?! Любі каго хочаш і здраджвай з кім хочаш!

Р ы г о р. Ты не зразумела... Проста... Калі б, скажам, у цябе сапраўды быў палюбоўнік, і я ведаў бы, што ты спіш з ім — нічога не змянілася б!

Н а т а ш а. Ясна. Я патрэбная табе як муза, як крыніца «светлай энергіі» для творчасці. *(Жартаўліва.)* Ну, натхніўся, набраўся флюідаў? Цяпер марш за работу, да мальберта! *(Устае.)* Напішаш карціну, павязеш у Парыж на выставу, і я буду ганарыцца, што натхніла цябе. Я згодна быць тваёй Джакондаю. Шчасліва!

Р ы г о р *(устае, усё хоча затрымаць яе)*. Хочаш, пройдземся пехам? Праведу цябе. Да вас магу зайсці, тым больш Васільевіча даўно не бачыў...

Н а т а ш а. Я паеду аўтобусам.

Р ы г о р. Два прыпынкі! А раней хадзіла толькі пехам і дазваляла сябе праводзіць.

Н а т а ш а. Тое раней было. Усё надакучвае. І часамі страшэнна хочацца пераменаў.

Р ы г о р *(углядаецца ў яе, нібы пачынаючы штосьці разумець)*. Што гэта цябе так дамоў цягне?

Н а т а ш а. Рыгор, блін, ці ты перапіў учора, ці сёння не пахмяліўся! Чаго чалавеку хочацца дамоў?! Стамілася, вось і хочацца.

Невялікая паўза.

Р ы г о р. А можа, нешта там, дома, цябе чакае? Ці нехта?

Н а т а ш а. Можа, чакае.

Р ы г о р. Дарэчы, кватарант ваш як, жыве?

Н а т а ш а. Жыве.

Р ы г о р. Дык ты што, да яго ляціш?

Н а т а ш а. Можа, і да яго.

Р ы г о р *(ашаломлена)*. Як жа я адразу... Ну, вядома... Сюрпрыз! Ну, вядома, малады... Багаты. Ён жа багаты?

Н а т а ш а. Багаты.

Цяпер Наташа не стрымліваецца, ёй хочацца хваліцца.

А хутка, можа, яшчэ багацейшы стане!

Р ы г о р. Гэта як? Якім чынам? Ці не збіраешся ты яго ўзбагаціць? Сабою... і кватэраю? У сэнсе, выйсці за яго.

Н а т а ш а *(з'едліва, злосна).* Чакай, ты ж не раўнівы! Ты ж любіш сваю жонку! Табе ж усё адно, з кім я буду спаць! Табе ж толькі «светлай энергіі» ад мяне набрацца!..

Р ы г о р *(прапускаючы міма вушэй).* Дык што значыць «хутка стане яшчэ багацейшы»?

Н а т а ш а *(урачыста).* А тое, што ён атрымае спадчыну! Усяго толькі.

Р ы г о р. Ад каго?! Ён жа вясковы? Ад сваёй бабкі карову?

Н а т а ш а. Ад свайго шведскага дзядзькі амерыканскія даляры.

Р ы г о р *(рагоча, потым замаўкае).* Ты... сур'ёзна?

Н а т а ш а. У Швецыі ў яго дзядзька. Родны. У іх з жонкаю няма дзяцей. І дзядзька падзяліў спадчыну. Алесь... ну, Ган, атрымае трэцюю частку, а дзве другія — пляменніцы дзядзькавай жонкі.

Рыгор ашаломлена глядзіць на яе, тады зноў<br>пачынае рагатаць.

Р ы г о р *(праз смех).* Ну, студэнт!.. Серыялаў наглядзеўся... *(Робіцца сур'ёзны.)* Наташка, ды ты што? Як ты можаш верыць? Ты ж разумная дзяўчына! У цябе ж бацька з маці — разумныя людзі! Апамятайцеся!

Н а т а ш а. Чаму такое можа быць толькі ў серыялах? Толькі недзе, а не ў нас, не з намі, не з нашымі знаёмымі?

Р ы г о р. Добра. Дапусцім. Тады хай пацвердзіць! Калі на тое пайшло! Хай пісьмы якія пакажа, ці спадчынную. Дакуменцікі! Ён паказваў?

Н а т а ш а. Я яму і так веру. Чаму я табе павінна верыць, а не яму?

Р ы г о р. Бо я кахаю цябе і дабра табе хачу! *(Задумваецца, пацірае скроні.)* Гіпноз нейкі... Ачмурэнне цэлай сям'і... Але хай, добра! Хай дзядзька. Хай Швецыя. Сапраўды, грошы ж у яго аднекуль ёсць...

Невялікая паўза.

Дык тады ж яшчэ горш! Атрымоўваецца, ён купіў цябе. Даляры... «баксы»... шведскія кроны... Тут у каго хочаш галава паплыве, тут ужо не да Рыгора — няўдачніка-п'яніцы...

Н а т а ш а. Не, тут ужо не да Рыгора, сапраўды. *(Задуменна, рамантычна.)* Купіў... Дурань ты! Ты думаеш, я з-за грошай?..

Р ы г о р. Паміж вамі ўжо каханне?

Н а т а ш а *(у тым жа рамантычна-летуценным тоне)*. Ведаеш, калі нават ён і хлусіць пра шведскага дзядзьку, затое як прыгожа хлусіць!.. Усё вакол такое пастылае, шэрае... І як часамі хочацца, каб знайшоўся чалавек і хоць бы схлусіў, але прыгожа... Схлусіў, што недзе ёсць зусім іншае жыццё...

Р ы г о р *(стулены, прыгорблены, прыбіты яе словамі, але яшчэ мацуецца)*. Прыгожая мана... Іншае жыццё... Не, нашых людзей нішто ніколі нічому не навучыць! Нішто ніколі. Край няпужаных ідыётаў! Прыйшоў чалавек з вуліцы, не паспеў як след пазнаёміцца, навешаў маны на вушы... Прычым самай дзікай, неверагоднай!.. Усё правільна: чым больш неверагодна, фантастычна, экзатычна — тым хутчэй нашы людзі паверацьь. Калі б ён сказаў, што знайшоў на прыпынку партфель, набіты далярамі, ніхто не паверыў бы! А так — багаты дзядзька, шведскія старадаўнія палацы, спадчына, куфэркі, набітыя золатам і срэбрам... Хлусня, затое якая рамантычная!

Н а т а ш а. Рыгор, я хачу, каб гэта была наша апошняя размова. І сустрэча.

Р ы г о р. Ну, вядома! Гэта само сабою. Разбіваю такія мары... Гэтыя сустрэча і размова будуць апошнія. Толькі глядзі, не застанься пасля з разбітымі начоўкамі замест куфэркаў, набітых шведскімі кронамі.

Н а т а ш а *(якая ўжо ішла, спыняецца)*. Каб ты раз назаўсёды зразумеў — грошы для мяне... *(Дастае з кішэні прабіты аўтобусны талончык, кладзе на далонь і дзьмухае.)* Тое самае, што вось гэты прабіты талончык. Варта мне толькі захацець, і я за пару дзён зараблю тысячы «баксаў»!

Рыгор няўцямна глядзіць на яе, яшчэ больш горбіцца, апускае галаву.

*(Злосна смяецца.)* Ты думаў, табе аднаму патрэбны мае «светлыя флюіды і энергія»? Запомні: ёсць людзі, якія дадуць мне ў любы час любую суму, у любой валюце! За што потым, вядома, давядзецца адрабляць.

Рыгор. Наташа...

Наташа. Гэта табе для інфармацыі. Каб не думаў, што грошы для мяне — усё. Гуд-бай!

Рыгор. Наташа! *(Ірвецца ўслед, спыняецца, стаіць моўчкі, потым мармыча.)* Напіцца б зараз... Проста «надрацца». Так, каб не чуць больш нічога, каб нічога і нікога не бачыць.

### Карціна другая

Знаёмая кухня. Васіль Васільевіч, Алена Яўгенаўна і Ган п'юць гарбату.

Васіль Васільевіч *(глядзіць на партрэт Наташы).* Што гэта нашай яшчэ няма? Чатыры гадзіны хутка.

Алена Яўгенаўна. Ім два семінары лішнія паставілі. Яна званіла.

Ган. Прыгожы партрэт. Наташа на ім прыгожая.

Васіль Васільевіч. Мне таксама падабаецца. Асабліва падбародак удала выйшаў, і гэты вось нахіл галавы... Валасы таксама... Падобная!

Ган. Што за чалавек Рыгор? Тое, што таленавіты, дык несумненна. Хто ён вам?

Алена Яўгенаўна. А так — прычапіўся. У іхнім *(ківае на мужа)* інстытуце неяк афармляў кабінет, плакаты нейкія мазаў; пазнаёміўся з Васем, і гэты прывёў яго дамоў, да нас. Так і ходзіць ужо мо з паўгода. Кожны тыдзень, як закон. Неяк звыкліся — ходзіць, ну і ходзіць... Не праганяць жа.

Васіль Васільевіч *(смяецца).* Сябар сям'і!

Ган. Зразумела. А ведаеце, ён падабаецца мне, хоць і калючы нейкі. Але, падабаецца, і ён, і праца яго, партрэт гэты. Ёсць у ім штосьці такое, ведаеце, неардынарнае... Увогуле

люблю творчых людзей... Дзякую, Алена Яўгенаўна, за смачную гарбату!

Алена Яўгенаўна. Што вы — чай як чай! Вам дзякую...

Ган. Не, гарбата сапраўды цудоўная... Ведаеце, я ж сірата, бацькоў зусім не помню. У бабулі гадаваўся. Таму, мабыць, так і цягне пажыць па чужых людзях, удыхнуць, так сказаць, чужой утульнасці, дакрануцца да яе...

Васіль Васільевіч. Дык ты сірата?

Ган. Сірата. Бабуля дагадавала мяне да сямі гадоў, акурат як у школу ісці, да першага класа. І памерла. З тых часоў так і сланяўся па дзіцячых дамах, інтэрнатах; тады адслужыў, вось ужо амаль і адвучыўся, а цяпер, як бачыце, з вамі — сяджу вось, расказваю.

Алена Яўгенаўна *(падпёршы галаву, з жалем)*. Невясёлая гісторыя...

Ган. Вясёлага мала... *(Ажывае.)* Аднак жыццё ідзе! Дык вось, паўтаруся: мо таму, што я сірата, для мяне так многа і значыць розная драбязá, як, напрыклад, кубак гарбаты, такая бяседа... Думаў, знайду ў вас толькі прытулак, а знайшоў і сталаванне, і такія харошыя адносіны да сябе... *(Заўважыўшы, што Алена Яўгенаўна збіраецца перабіць, не дае ёй.)* Ведаю, ведаю, што вы зараз скажаце! Пра грошы. Але паверце — справа тут зусім не ў грашах.

Васіль Васільевіч. Алесь, прабач, а як аб'явіўся той сваяк? Ну, шведскі дзядзька?

Ган. Гэта асобная гісторыя! Ён яшчэ ў вайну, падлеткам, быў вывезены ў Германію. І знік там. Без следу. Маці яго — мая бабулька — даўно і пахавала яго ў думках, і аплакала. Так і памерла, не даведаўшыся, што ён жывы.

Алена Яўгенаўна. Чаму ж ён столькі гадоў не падаваў вестачкі? Ведаў жа, што маці недзе жыве...

Ган. Мабыць, баяўся... Не за сябе — за маці, за сваякоў. Каб не рабіць ім... карацей, самі разумееце.

Васіль Васільевіч. Тымі часамі, сапраўды, лепш было маўчаць і не рыпацца...

Алена Яўгенаўна. І ўсё ж — родная маці...

Ган. Калі шчыра,– відаць, былі прычыны баяцца. Іх жа вербавалі там, у Германіі, усе, хто не ленаваўся: і немцы, і амерыканцы, і савецкія, і англічане... Тым больш пасля жыццё яго пакідала па свеце,– гэта я ўжо з пісьма ведаю,– і ў Амерыцы быў, і ў Аргенціне, і нават у Аўстраліі, а апынуўся ў Швецыі.

Алена Яўгенаўна. Усё ж, бачыце, успомніў вас, вырашыў абазвацца.

Ган. А што яму цяпер? Цяпер яму няма чаго баяцца. Напісаў пісьмо на адрас сельсавета. Яму адказалі: так і так, маці ваша даўно памерла, брат – мой, значыць, бацька – таксама. Ёсць толькі пляменнік – я, значыць.

Васіль Васільевіч *(задуменна)*. Гісторыя... Хаця ў жыцці многа неверагоднага. Такога, што хацеў бы прыдумаць, ды лепш не прыдумаеш.

Алена Яўгенаўна. І ён, значыць, на вас выйшаў?

Усе задумваюцца на кароткі час. Ган раптам устае, выходзіць, вяртаецца з кашальком.

Ган Вось што. Вы мне вельмі сімпатычныя, уся сям'я ваша... Я па ўласнай ініцыятыве хачу змяніць умовы аплаты. Буду плаціць не сто пяцьдзесят даляраў у месяц, а... скажам, трыста.

Невялікая паўза.

Як?!.

Васіль Васільевіч. Ты... вы... сур'ёзна?

Ган *(дастае, адлічвае грошы)*. Вось яшчэ сто пяцьдзесят.

Алена Яўгенаўна. Ой... не... не магу!.. Так нечакана... Аж страшна чамусьці стала. Ды гэта ж проста... абдзіраць вас! Вася, ну ты скажы што-небудзь – ты ж гаспадар, мужчына... Як быць?

Васіль Васільевіч. «Як быць...» Адкуль я ведаю? Адно бачу – хлопец сур'ёзны, пры грашах... Можа, гэта для нас сума, а для яго – не такія і грошы?..

Алена Яўгенаўна. Для ўсіх гэта грошы! Аж галава забалела, не ведаю нават...

Ган. Бярыце і менш думайце! *(Піхае грошы ў далонь Алене Яўгенаўне, тая забірае.)*

Паўза. Гаспадары, ашаломленыя, расчуленыя, хочуць аддзячыць нечаканага дабрадзея, толькі не ведаюць як.

Васіль Васільевіч *(усё кашляе)*. Ага... Так... Значыць, Швецыя? А якія ў цябе планы, Алесь, на будучае? Пасля інстытута? Я маю на ўвазе, тут застанешся ці перабярэшся ў капіталістычны рай, у «шведскі сацыялізм»?

Ган. Не ведаю... З'ездзіць туды я, вядома, з'езджу, пагляджу — візу ўжо афармляю... А назаўсёды? Не ведаю... Трэба вам і яшчэ ў адным прызнацца: спадчына пераходзіць да мяне толькі пасля... э-э... ну, вы разумееце. А пакуль дзядзька жывы — цьфу-цьфу-цьфу! — і хай жыве яшчэ сто гадоў! — але...

Васіль Васільевіч. Разумею!

Алена Яўгенаўна. А я на вашым месцы і секунды не вагалася б! Усё кінула б, пехам пайшла б!

Васіль Васільевіч. Ты пайшла б... Ды не пра цябе размова. Алесь — чалавек малады, з будучыняй, разумны, сімпатычны... Можа, ажэніцца ды і застанецца тут? А, Алесь? Цяпер і тут, хто пры грашах, жыве не горш, чым у Швецыі.

Алена Яўгенаўна. Як жа! Нажывешся тут. Тут багатых не любяць! Жыві і бойся: ці абкрадуць, ці, чаго добрага, заб'юць зусім.

Ган *(задуменна)*. Жаніцца, кажаце?.. А чаму б і не? Вы ўгадалі — я думаў і пра такі варыянт. У прынцыпе і пара ўжо... Армія за плячыма, пяць курсаў інстытута...

Васіль Васільевіч і Алена Яўгенаўна міжволі падымаюць вочы на Наташын партрэт, тады шматзначна пераглядаюцца. Ган заўважае гэта.

А чаму гэта я адзін усё балбачу ды балбачу? Раскажыце і вы мне пра сябе, хоць коратка.

Алена Яўгенаўна *(уздыхае)*. Ды тут доўга, каб і захацеў, не раскажаш. А з другога боку, бясконца можна расказваць. Абы хто слухаў.

В а с і л ь  В а с і л ь е в і ч. Ну ўжо — бясконца! Раман, яшчэ скажы, можна напісаць.

Га н *(ажыўляецца, смяецца).* Раман?

А л е н а  Я ў г е н а ў н а. Я ж другая ў яго... Акрамя Наташы ў яго яшчэ дачка ёсць. Нядаўна толькі скончыў аліменты выплачваць.

Га н. А чаму развяліся?

А л е н а  Я ў г е н а ў н а. Вядома чаму. Пакойчык у інтэрнаце, пялюшкі, цесната... Ёй дыплом рабіць, гэты з дзіцем няньчыцца... Не спяць абое начамі, злуюцца... Так і разышліся.

Га н. А з вамі як ён пазнаёміўся?

А л е н а  Я ў г е н а ў н а *(адразу памяняўшы гнеўны тон на гуллівы, усміхаючыся).* Выпадкова... Захварэў неяк, хадзіў у паліклініку на ўколы. Я маладая была, халацік белы, белыя туфелькі, а ён — абношаны, чаравікі старэнькія...

В а с і л ь  В а с і л ь е в і ч. Ну, хопіць, разаўспаміналася!

Га н. Я, канечне, не маю права сунуць нос, куды не просяць... Але...

А л е н а  Я ў г е н а ў н а *(перабівае).* Ды вы нам цяпер свой чалавек! І што вы такога асаблівага выпытваеце?

Га н. Я пра іншае крыху... Не ведаю нават, як пачаць...

А л е н а  Я ў г е н а ў н а. Пытайце, і ўсё.

Га н. Скажыце, у Наташы былі хлопцы? Вы разумееце, што я маю на ўвазе.

Невялікая паўза.

Далібог, мне няёмка гаварыць пра такія рэчы з бацькамі...

А л е н а  Я ў г е н а ў н а *(усхвалявана).* Не было! Пабажыцца гатова — не было ніякіх хлопцаў! *(Пераглядаецца з мужам.)* Яна, самі, Алесь, бачыце, дзяўчынка прыгожая, шустрая... Вядома, былі розныя там дыскатэкі, танцы, провады да пад’езда... Можа, нават пацалункі — у шчочку, вядома! А так — нічога больш! Як маці кажу!

Га н *(пасля таго, як перадаў Алене Яўгенаўне грошы, робіцца больш самаўпэўнены, раскаваны).* А бацька як думае?

В а с і л ь  В а с і л ь е в і ч *(кашляе).* Тое ж думаю... Ні з кім нічога ў нашай дачкі не было...

І яму, і жонцы непрыемна. Ган заўважае гэта.

А л е н а  Я ў г е н а ў н а. Аднак, дзе яна? Рэдка так позна вяртаецца... Выйду, хоць ля пад'езда пастаю, да прыпынку прайдуся...

Га н. Дык давайце лепш я! З Васілём Васільевічам!

А л е н а  Я ў г е н а ў н а. У мяне галава чамусьці разбалелася, трэба пабыць на паветры. *(Выходзіць.)*

Васіль Васільевіч шэпча нешта Г а н у на вуха, той згодна ківае, выходзіць. Васіль Васільевіч паціpae рукі, дастае з буфета ладную чарку, ставіць на стол, рыхтуе бутэрброд. З'яўляецца Га н з пачатай пляшкай гарэлкі, налівае ў чарку, пляшку затыкае і ставіць пад стол.

В а с і л ь  В а с і л ь е в і ч *(хутка выпівае і закусвае)*. Эх, Алесь!.. Што ж ты так разварушыў мяне? Усю душу развярэдзіў! Напомніў... Я ж і цяпер кахаю тую, першую, забыць не магу, шкадую яе, сніцца мне ўсё часцей і часцей... Гэта я быў вінаваты! З-за мяне разышліся, я яе давёў! Я ж не дзяўчынкаю яе ўзяў, вось і даводзіў. Даставаў, як Наташа сказала б. Плакала яна і каялася,— а я яшчэ больш распаляюся, яшчэ больш дабіваю, ледзь не кожную ноч: расказвай, хто быў той? Ды як у вас з ім было? Ды што ты адчувала тады? Ах, успамінаць брыдка, сябе ненавідзіш толькі...

Ган налівае зноў, Васіль Васільевіч выпівае і ўжо нават не закусвае.

Я ведаю, чаму ты пра Наташу спытаў! І правільна спытаў! Можа, Алена і выйшла знарок, каб мы з табою як мужчына з мужчынам пагаварылі. Падабаецца табе Наташа?

Га н. Падабаецца.

В а с і л ь  В а с і л ь е в і ч. Жаніцца думаеш, ці...

Га н *(цвёрда)*. Жаніцца. Калі пойдзе. І калі вы аддадзіце яе за мяне.

В а с і л ь  В а с і л ь е в і ч *(расчулена)*. Вось гэта мужчына, гэта хлопец! *(Уздыхае, апускае галаву.)* Алесь, а цяпер паслухай. Алена не скажа, яна маці... І я мог бы зманіць! Але табе не

хачу. *(Ускідае галаву.)* Алесь, Наташы дваццаць гадоў! Дваццаць! Табе колькі?

Ган. Дваццаць пяць.

Васіль Васільевіч. Дзе ты цяпер захацеў знайсці дзяўчынку ў дваццаць гадоў?! Ты ж бачыш, якая Наташа — красуня, усё пры ўсім... Вядома, былі хлопцы, вядома, яна не дзяўчынка! Але, дурань ты, прабач,— гэта для цябе так важна?! Ды яна цябе толькі больш любіць будзе!

Ган. Я пытаўся пра іншае. Я пытаўся, ці ёсць у яе на цяперашні момант хлопец?

Васіль Васільевіч. Няма ў яе нікога!

Ган. А тое, дзяўчынка яна ці не,— мяне гэта цікавіць у апошнюю чаргу.

Васіль Васільевіч *(расчулены, абдымае яго)*. Які ты ўсё ж разумны хлопец!.. Бяры яе — і будзеце жыць, як у Бога за пазухай! Толькі ніколі, ніколі не паўтарай маіх памылак — не мучай яе! Ніколі ні пра што не распытвай! Яна — светлая, цудоўная, яна будзе адданая табе... *(Расчульваецца яшчэ больш, выцірае слёзы.)* Аднойчы, зусім маленькую, узялі яе ў Крым, на мора, і там хваля каля самага берага збіла яе з ног, пацягнула за сабою, у мора... Ледзь не ўтапілася. А бабка жыла, дык Наташа так любіла яе! Кожны дзень пасля школы ў бальніцу ездзіла... Бабка хворая, месяцамі па бальніцах ляжала... А сабак, катоў як любіла! Заўсёды, ідучы ў школу, набярэ аб'едкаў, вынесе, а яны ўжо ведаюць, чакаюць яе каля пад'езда... А аднойчы зрабілі аблаву на гэтых бяздомнікаў, прыехала машына, палавілі ўсіх. Яна ў школе была, прыйшла, як даведалася — істэрыка!.. Ледзь адратавалі. А адзін кот, стары, самы хітры, змог неяк схавацца і ацалеў; дык яна на другі дзень прыцягнула яго сюды, у кватэру, і ён тут жыў. А потым раптоўна знік, сышоў — адчуў смерць і не захацеў паміраць у кватэры, рабіць людзям лішнія клопаты...

Чуваць галасы. Васіль Васільевіч умомант хавае чарку і пляшку. Уваходзяць Наташа і Алена Яўгенаўна.

Наташа. Прывітанне, Алесь! Я даўно прыехала б, ды Рыгор, казёл, прычапіўся.

В а с і л ь  В а с і л ь е в і ч *(гнеўна).* Што ён з цябе хоча?

Н а т а ш а. Ай, доўга расказваць. Я так стамілася, ледзь ногі валаку, нават гаварыць і есці лянота...

А л е н а  Я ў г е н а ў н а. Ідзі, ідзі, памыйся, пераадзенься, паляжы, адпачні трошкі,— а я паклічу, калі абед падагрэю!

Га н *(Наташы).* Шкада, што стамілася. А я хацеў табе прапанаваць прагуляцца, яшчэ даволі светла на вуліцы.

Н а т а ш а *(ажыўляецца).* А, дык гэта можна! Вядома, прагуляемся. Толькі пачакай крышку, я пераадзенуся, гарбаткі вып'ю — і гатова.

А л е н а  Я ў г е н а ў н а. Ты ж ледзь ногі валачэш!

Н а т а ш а. Мне ж не семдзесят гадоў. І за мае ногі не турбуйся. Вось адпачну хвілінак дзесяць — і хоць зноў на заняткі... *(Выходзіць.)*

В а с і л ь  В а с і л ь е в і ч *(Стараючыся не стаяць блізка каля жонкі).* А я тэлевізар пайду пагляджу. *(Выходзіць.)*

Га н. Алена Яўгенаўна, не крыўдзіцеся, дзеля бога!

А л е н а  Я ў г е н а ў н а. За што?

Га н. Што Наташу стомленую цягну гуляць. Мне пагаварыць з ёю трэба. Калі вы супраць, канечне...

А л е н а  Я ў г е н а ў н а *(перабівае).* Гуляйце на здароўе! Сапраўды, ёй жа не семдзесят гадоў.

Га н *(ціха).* Алена Яўгенаўна, чаму вы мне заўсёды «выкаеце»? Аж няёмка... У маім пакойчыку ёсць пляшка харошага віна, давайце я прынясу і мы з вамі вып'ем на «ты». У сэнсе я вас, як і зваў, так і буду на «вы», а вы мяне — на «ты». Добра?

А л е н а  Я ў г е н а ў н а *(сарамліва).* Як скажаце... скажаш. А што... за віно?

Га н. Звычайнае, чырвонае. *(Выходзіць, хутка вяртаецца з пляшкаю.)*

Выпіваюць па чарцы віна.

А л е н а  Я ў г е н а ў н а. Якое віно цудоўнае... Даўно не піла такога... Цяпер на «ты»? Алесь, ты гаварыў з Васем, калі мяне не было?

Г а н. Крыху. Пра ўсё і ні пра што.

А л е н а  Я ў г е н а ў н а. Здагадваюся! Ён нагаворыць! Хаця, ведаеш, ён добры вельмі... Каб не піў ды каб грошы меў — яму цаны не было б. Але... як табе сказаць? Гаварыць ён не ўмее! *(Падсаджваецца бліжэй да Гана.)* Ты лепш мяне паслухай. Я бачу, ведаю — табе падабаецца Наташа. А галоўнае, і ты ёй падабаешся! І яна — дзяўчынка, нечапаная, верце... вер маці!

Г а н. Для мяне гэта справа дзесятая.

А л е н а  Я ў г е н а ў н а *(шчаслівая, азіраецца)*. Налі мне яшчэ... Дзякую... Калі ў вас усё складзецца... Ах, якое шчасце было б! Не з-за тваіх грошай, не думай... Наташка — усё для нас, увесь наш скарб, мы даём за ёю вось гэтую кватэру цалкам... А самі хоць у багадзельню пойдзем... *(Прыслухоўваецца, хавае ў буфет чаркі і віно.)*

З'яўляецца Н а т а ш а, пераадзетая.

Н а т а ш а. Гатовая! Зараз толькі перакушу па-хуткаму... А ты *(Гану)* ідзі апранайся.

Г а н *(Алене Яўгенаўне)*. Мы яшчэ дагаворым з вамі. *(Выходзіць.)*

## Карціна трэцяя

Прыцемкі, тая ж, што і ў першай карціне, вуліца, тая ж лаўка, ліхтар гарыць.

Н а т а ш а *(вядзе Гана за руку)*. Вось гэтая лавачка... Я ж казала, тут нікога не будзе. Пасядзім? Ці яшчэ пройдземся?

Г а н. Давай пасядзім.

Сядаюць.

Н а т а ш а. Як па-англійску «лаўка»?

Г а н. Бэнч.

Н а т а ш а. А дрэва?

Г а н. Трі.

Н а т а ш а. А... ліхтар?

Га н. Стрыт-лэмп.

Н а т а ш а. Адкуль ты ўсё ведаеш? *(Гулліва, жартоўна.)* Такі разумны, што проста дурніцаю сябе з табою адчуваеш!

Га н *(сур'ёзна)*. Я многа чаго ведаю, Наташа. У тым ліку і пра цябе.

Невялікая паўза.

Н а т а ш а *(таксама робіцца сур'ёзнаю)*. Напрыклад?

Га н. Напрыклад, як ты бабулю любіла. Як хваля цябе ледзь не забрала ў мора...

Н а т а ш а *(смяецца з палёгкаю)*. А, бацька набалбатаў! Ну, гэта далёка не самае горшае, што ты пра мяне ведаеш...

Га н. Ёсць і горшае? Няўжо ў цябе можа быць нейкая тайна?

Н а т а ш а. Як і ў кожнага чалавека. Як і ў цябе. Я вось зусім не ўяўляю — чым ты жывеш? Пра што думаеш? Хто ты, урэшце? Ці ёсць у цябе дзяўчына? Хіба ты просты? Адкрыты? Чаму ты плаціш нам за гэты пакойчык, за гэтую камору такія грошы? Дарэчы, калі ты выйшаў, маці пахвалілася: ты заплаціў не сто пяцьдзесят, а трыста даляраў у месяц! Чаму?!

Га н. Я скажу, Наташа. Зараз пасядзім трохі, і ў канцы я ўсё табе скажу. А ведаеш, пры святле гэтай «стрыт-лэмп» ты падобная на тую Наташку з партрэта, што ў вас на кухні... Такою, як на партрэце, цябе мог убачыць толькі або вялікі мастак, або чалавек, які цябе кахае. Для якога ты многа значыш. Ён змог убачыць у табе тое, чаго іншыя ніколі не ўбачаць.

Н а т а ш а. А... ты?

Га н. Ведаеш, калі шчыра, я пакахаў спачатку партрэт, а потым — цябе жывую... Дзіўна, праўда?

Н а т а ш а. Не ведаю. Я пра такое ніколі не думаю.

Га н. А я часта думаю... Якая ўсё ж сіла сапраўднага мастацтва! Вось ты маладая, і я, потым мы знікнем, памрэм,— а на твой партрэт будуць глядзець зусім іншыя маладыя хлопцы, глядзець і кахаць цябе, нібы жывую! Выходзіць, ты, дзякуючы мастацтву, робішся бессмяротная! Хіба не дзіва!

Н а т а ш а. Толку мне з таго, што нехта некалі будзе кахаць аблупленыя фарбы на палатне з назваю «Наташа»! Калі мяне ўжо не будзе! Слухай, Алесь, ведаеш, чаму я спазнілася? Гэты «вялікі мастак», Рыгор твой, даставаў мяне сваімі байкамі пра музы і натхненне!.. Прыдурак... *(Гану, пяшчотна.)* І ты пра гэта пачынаеш? Другую серыю я не вытрымаю... Алесь, я не хачу быць нічыёй натхняльніцай, нічыёй музаю. Я жывая дзяўчына, Алесь... Я – дзеўка, мне цяпер хочацца кахаць і кахацца, а не цешыцца марамі, што праз сто гадоў я буду жыць у выглядзе аблупленых фарбаў! Спадзяюся, ты не Рыгор і кахаеш мяне інакш?

Га н. Як?

Н а т а ш а *(смяецца)*. Больш практычна! Зараз проста абдымі мяне і пацалуй.

Га н *(не варушыцца, глядзіць перад сабою)*. А я, аказваецца, больш разумею Рыгора, чым ты.

Н а т а ш а. Во пашэнціла на кавалераў!

Га н *(нібы не чуе)*. У мяне, відаць, застаўся нейкі комплекс «школьнай» непаўнавартасці... З шостага класа пачынаючы, жанчына без вопраткі ўжо не была для мяне тайнаю... Бруду і гразі хапала... Затое я ніколі не праводзіў дзяўчыну дамоў, не падносіў ёй партфель, не цалаваў у шчочку ў пад'ездзе, не дарыў кветак, мне не перадавалі запісачак з прапановаю схадзіць у кіно, пра мяне не пісалі на школьнай парце ці на плоце «Алесь плюс...». Таму мне проста прыемна сядзець з табою побач, браць тваю далонь у сваю... Я быццам у тых сваіх школьных гадах апынуўся і дабіраю недабранае... І гэта так здорава!

Невялікая паўза.

Н а т а ш а. Што ты называеш «гразёю і брудам»? А калі, напрыклад, у шостым класе пакахаліся хлопчык з дзяўчынкаю і вырашылі «трахнуцца»? Што ў гэтым бруднага? Гэта абсалютна нармальна!

Га н. Гразёю і брудам я называю тое, калі дзяўчынка-шасцікласніца, п'яная і абкураная, ляжыць голая на зямлі, а мы,

восем прыдуркаў, восем яе аднакласнікаў, абступілі яе, нагнуліся і вывучаем яе палавыя органы...

Н а т а ш а. Досыць, я зразумела. Давай лепш пра каханне. Чыстае! Пра дзяўчынак у школьнай форме і з партфельчыкамі... *(Азіраецца, заўважае ката, маніць.)* Кіс-кіс-кіс! Як кот па-англійску?

Г а н. Кэт.

Н а т а ш а *(здзіўлена)*. Не ідзе! Мяне ж каты і сабакі любяць!

Г а н. А як звалі таго ката, што жыў у вас? Якога ты на кватэру некалі прынесла?

Н а т а ш а. І пра гэта расказалі? Сапраўды, ты ведаеш пра мяне больш, чым трэба было б для звычайнага кватаранта.

Г а н *(ціха)*. Нават пра твой шосты клас...

Наташа ўскідваецца, хоча штосьці сказаць, але не гаворыць, раптам сцінаецца, апускае галаву і пачынае ўздрыгваць у ціхім плачы. Ган абдымае яе, гладзіць па плячы; яна пакорліва схіляецца да яго.

Н а т а ш а *(праз слёзы)*. Не атрымалася чыстай дзяўчынкі з партфелем...

Г а н *(пяшчотна, ціха)*. Дурнічка... Ды мне напляваць на тваё мінулае, на ўсе твае шостыя класы і дзесятыя...

Наташа адхінаецца, вылузваецца з абдымкаў, глядзіць на яго.

Н а т а ш а. Гэта праўда? Паўтары!

Г а н. Ты, жывая, цёплая — перада мною. А на ўсё іншае мне пляваць!

Наташа зноў хоча прыхінуцца да яго, ён адводзіць яе рукою.

Пачакай, даслухай... Я абяцаў расказаць, чаму я ў вас жыву і плачу вялікія грошы за такі пакойчык... Дык вось: трыста даляраў — гэта ўсё, што ў мяне ёсць. Месяц амаль прайшоў, і мне, каб з'ехаць ад вас, не будзе за што купіць нават талончык на аўтобус!

Н а т а ш а. Ты... збіраешся з'язджаць?

Г а н *(не адказваючы).* Я жыў гэты месяц у вас толькі з-за цябе! І дурыў вам галаву сваім нібыта багаццем, і шведскага дзядзьку выдумаў — толькі з-за цябе! Каб думалі, што я багаты, каб за гэта любілі мяне, а ты — каб, магчыма, і закахалася... Вось табе праўда!

Паўза.

Н а т а ш а *(ціха).* Я даўно здагадвалася... *(Дакранаецца да Гана, абдымае, пяшчотна гаворыць.)* Дурань ты... Каханы мой... Чаму вы ўсе думаеце, што грошы для жанчыны — галоўнае?! Усё цудоўна! Ты шчыры, добры... Ты цудоўны хлопец! Толькі кінь камплексаваць! Цяпер табе не трэба ні ад кога хавацца! Зараз мы прыйдзем дамоў, і ты прызнаешся ва ўсім бацькам.

Г а н. Абавязкова прызнаюся, Наташа. Адно пачакай пару дзён, да канца месяца, да дня нараджэння Алены Яўгенаўны... Не хачу псаваць людзям свята... Добра?

Н а т а ш а. Добра! Я таксама буду маўчаць... Абдымі мяне, калі ласка, мацней... Прыцісні да сябе, мне холадна... Як па-англійску «сёння холадна і адзінока»?

Г а н *(разгублена).* Іт із... коўлд... энд лоўнлі тудэй.

Н а т а ш а. Вось бачыш, які ты разумны... А я толькі і ведаю, што «гуд-бай» ды «кэт»... Ну, яшчэ «о’кей»... І ў нас усё будзе о’кей... Праўда? А, забыла — я ж яшчэ ведаю — «ай лав ю».

Г а н *(ускінуўшыся).* Паўтары!

Н а т а ш а. Ай лав ю.

Г а н. Яшчэ раз!

Н а т а ш а. Я кахаю цябе...

Цалуюцца. Нечакана Ган рэзка ўстае, ледзь не адштурхнуўшы Наташу.

Г а н *(не гледзячы на яе).* Дзяўчынка мая... Каб у мяне было не трыста даляраў, а трыста мільёнаў,— я аддаў бы іх табе зараз за адны гэтыя словы!

*Заслона*

## АКТ ТРЭЦІ

Знаёмая кухня. Стол, сабраны святочна, шыкоўна. У цэнтры стала ў вазе тры гваздзікі. Алена Яўгенаўна, Васіль Васільевіч, Наташа апранутыя ў святочнае. Наташа завіхаецца каля стала, Васіль Васільевіч і Алена Яўгенаўна сядзяць.

Васіль Васільевіч *(гледзячы на гадзіннік)*. Зараз прыйдзе.

Алена Яўгенаўна. Гэта ж трэба! Думалі — возьмем кватаранта, а атрымалася...

Васіль Васільевіч. У мяне лёгкая рука! Хто прыдумаў здаваць пакой? Хто расклейваў абвесткі? Але, калі шчыра, тут і Рыгору трэба падзякаваць... Ён жа прывёў.

Алена Яўгенаўна. Не згадвай, бо прыцягнецца! *(Стукае тройчы лыжкаю па стале.)* А я ў свой дзень нараджэння чужых не хачу!

Наташа *(смеючыся)*. Ган сваім ужо зрабіўся?

Алена Яўгенаўна. Ты ж ведаеш, пра што я... Калі вы, дачушка, з ім...

Наташа *(перабівае)*. Цябе з бацькам яшчэ чакае сёння сюрпрыз... Самы нечаканы падарунак на твае імяніны!

Алена Яўгенаўна *(радасна)*. Наташка?! Няўжо ён... сёння?

Наташа. Сёння, сёння.

Званок у дзверы. Наташа бяжыць адчыняць. З'яўляецца разам з Ганам. У таго ў руках — вялізны букет ружаў, пакункі, шампанскае. Ган кладзе гэта на свабодны край стала, падыходзіць да Алены Яўгенаўны і цалуе ёй руку.

Ган *(строга, сур'ёзна)*. Жывіце, Алена Яўгенаўна, да ста гадоў!

Алена Яўгенаўна *(расчулена)*. Дзякую, хлопчык мой... Куды мне сто, гэта вы, маладыя, жывіце...

Васіль Васільевіч. Вось букет! Аж сорамна за гэтыя свае гваздзічкі...

Наташа разбіраецца з пакункамі, расстаўляе кветкі.

А л е н а  Я ў г е н а ў н а. Дык сядаем? Ці хай маладая гаспадыня запрашае?

Наташа запрашае. Сядаюць. Ган адкаркоўвае шампанскае, налівае ў фужэры. Ён бледны, рухі нервовыя.

Г а н *(стоячы, хвалюючыся).* Вось... Гэты тост я... не! Я пражыў у вас месяц. Я палюбіў за гэты час вашую сям'ю, яна стала як бы і маёй сям'ёю... Давайце вып'ем за Алену Яўгенаўну! У канцы я скажу яшчэ тост, больш доўгі...

Не паспяваюць выпіць, як чуецца званок у дзверы.

А л е н а  Я ў г е н а ў н а *(мужу).* Ну, сурочыў! Ідзі, адчыняй! Нябось Рыгор прыцягнуўся... Даўно ж не было!

В а с і л ь  В а с і л ь е в і ч вінавата падхопліваецца, ідзе ў пярэднюю. Вяртаецца разам з Р ы г о р а м. Той таксама з ружамі, з шампанскім, з нейкім пакункам. П'янаваты.

Р ы г о р. Алена Яўгенаўна — усё вам! *(Цалуе імяніnніцу.)*

А л е н а  Я ў г е н а ў н а *(шчаслівая).* Дзякую, Рыгорка... Сядай дзе бачыш — месца хапае!

Р ы г о р. Добры вечар, Наташа.

Н а т а ш а. Добры. *(Устае, прыносіць прыбор, фужэр.)*

Р ы г о р. Здароў, Ган! *(Падае Гану руку, глядзіць прама ў вочы і не адпускае яго рукі.)*

Ган тузаецца. Невялікая паўза. Урэшце Рыгор адпускае руку, сядае.

Г а н *(беручы пляшку з шампанскім, Рыгору).* Падай, калі ласка, свой фужэр.

Р ы г о р. Не, мне гарэлкі. Я сам сабе налью... Вось, глядзіце, поўны фужэр налью і вып'ю. *(Налівае і выпівае адзін, зноў устаўляецца ў Гана.)* А ў Швецыі п'юць гарэлку? Ці там сухі закон?

Г а н *(збянтэжана круціць свой фужэр у пальцах).* Не ведаю...

Р ы г о р. Як так?! Пара б ужо і ведаць! Пра Швецыю табе, Ган, даўно пара ўсё ведаць...

А л е н а  Я ў г е н а ў н а. Адчапіся ад чалавека!

В а с і л ь  В а с і л ь е в і ч. Праўда, Рыгор... Прыйшоў, дык гэта самае...

Р ы г о р *(не звяртаючы ўвагі).* Слухай, вазьмі мяне з сабою ў Швецыю? Я табе лёкаем там буду. Дзверцы аўтамабіля расчыняць, каву з каньяком у ложак прыносіць...

Н а т а ш а. Супакойся. Бо зараз я для цябе расчыню дзверы. Каб потым за табою зачыніць.

Р ы г о р *(складае на грудзях рукі крыжам).* Усё, маўчу! Калі Наташа просіць — маўчу! Слова Наташы для мяне закон... Адно-адзінае маленькае пытанне: ты, Ган, у газетах не друкуешся? Ці ў часопісах? Прозвішча ў цябе такое, што лёгка запомніць.

Г а н. Магчыма. *(У яго падае відэлец, ён нагінаецца, падымае. Ён бледны.)*

Р ы г о р. Дурні! Сляпыя! Ды ён смяяўся з вас! Пацяшаўся з вас цэлы месяц, а вы слухалі! Якая ў яго спадчына?! Які шведскі дзядзька?!

Н а т а ш а. Ды замаўчы ты! Алесь, скажы лепш сам, цяпер! Раз свята ўсё адно сапсаванае... Не магу яго *(ківае на Рыгора)* слухаць!

Невялікая паўза. Ган устае, глядзіць у стол, гаворыць глуха.

Г а н. Гэта... праўда. Прабачце... Я хлусіў вам пра спадчыну, пра дзядзьку... У мяне цяпер у кішэні няма нават на аўтобусны талончык...

Н а т а ш а *(урачыста).* І я даўно гэта ведала!

Р ы г о р *(насмешліва).* Нічога, я найму яму таксоўку!

Г а н. Я хацеў прызнацца ў канцы вечара... *(Стаіць.)*

Рыгор налівае сабе, але не п’е. Паўза — пакуль ашаломленыя Алена Яўгенаўна і Васіль Васільевіч асэнсуюць навіну.

В а с і л ь  В а с і л ь е в і ч. Ты хлусіў... Але навошта?!

А л е н а  Я ў г е н а ў н а. Алесь, ты ж плаціў нам грошы! Сапраўдныя — я мяняла! Навошта ты хлусіў, калі і так...

Н а т а ш а *(перабівае).* Якая вам розніца?! А калі б наняў у нас кватэру зусім іншы чалавек? Які не хлусіў бы, але плаціў не трыста даляраў, а дзесяць? Вам ад гэтага лепш было б?

Р ы г о р. Стоп! Тут ты вельмі памыляешся. Якраз вельмі важна, навошта ён хлусіў.

Н а т а ш а. Алесь, ды скажы ты хоць што-небудзь!

Р ы г о р *(Гану).* А сапраўды, скажы. Навошта табе спатрэбілася плаціць заместа дзесяці — трыста даляраў!

Ган маўчыць, не падымаючы галавы.

Тады я за яго скажу. Ён пісь-мен-нік! Разумееце? Пісьменнік! Я не паленаваўся пайсці ў інстытут, затым — у інтэрнат, пагаварыў з хлопцамі, з якімі ён жыў, яны паказалі мне часопісы з яго апавяданнямі! Вы патрэбны былі яму як натура, як матэрыял для сюжэта!

Паўза.

Н а т а ш а. Алесь, гэта праўда?

Ган маўчыць.

Ты пісаў пра нас? Пра нашую сям'ю? І дзеля гэтага вывучаў нас? Выпытваў... Эксперыментаваў... Хлусіў... Не шкадаваў грошай, каб дабіцца ад нас шчырасці?

Г а н *(глуха).* Я збіраўся расказаць у канцы вечара... *(Ускідвае галаву.)* Так! Я пісаў пра вас! Вывучаў вас! Так — гэта быў эксперымент! Але ж я заплаціў за яго! Не грашыма, не далярамі заплаціў! А тым, што я — чалавек з вуліцы — прыйшоў да вас, чужых людзей, якія жылі бедным, шэрым, беспрасветным жыццём,— прыйшоў і адкрыў вам прасвет! Падараваў вам трыццаць дзён казкі, надзеі, веры! Няўжо гэта не акупляе маёй хлусні? Паглядзіце, як вы за гэты месяц акрыялі, памаладзелі, як змяніліся адносіны паміж вамі!

Невялікая паўза.

Н а т а ш а. Чаму ты не сказаў гэтага тады, на лаўцы?

Ган маўчыць.

Я сама ведаю цяпер чаму. *(Задумваецца на імгненне.)* Пачакайце, я зараз...

Н а т а ш а выбягае. Чуваць, як яна набірае тэлефонны нумар, потым гаворыць з кімсьці.

А л е н а  Я ў г е н а ў н а. Алесь, ты... вы і пра бацькоў хлусілі? Што вы сірата?

Г а н. Не!

В а с і л ь  В а с і л ь е в і ч. А я здагадваўся...

Н а т а ш а вяртаецца.

Н а т а ш а. Ты не сказаў тады, на лаўцы, бо пабаяўся? Бо не быў яшчэ да канца сабраны матэрыял? Пабаяўся, што не дапішацца раман, ці аповесць, ці што ты там пішаш? Ты хацеў давесці сваю ролю да канца? Пабыць на імянінах, потым прызнацца... Паглядзець, што з гэтага атрымаецца... І тады са спакойнай душою дапісваць фінал?

Ган маўчыць.

Дык будзе табе фінал. Пачакай *(глядзіць на гадзіннік)* хвілінак дзесяць...

А л е н а  Я ў г е н а ў н а. Што ты прыдумала?!

Н а т а ш а. Нічога, я добра прыдумала...

Г а н раптам выбягае, хутка вяртаецца са стосам спісаных лістоў.

Г а н. Вось! Вось чарнавік твора пра вашую сям'ю! Тут гісторыя добрага, разумнага і сумленнага, але слабага чалавека, які столькі гадоў не можа забыць сваю першую жонку і ад таго пакутуе, не можа дараваць сабе, што калісь крыўдзіў яе! Вось гісторыя мілай, цярплівай, адданай жанчыны, якая любіць свайго мужа і сваю дачку больш за ўсё на свеце, якая рвецца з усіх сіл, каб не ёй, а ім было трохі лягчэй жыць! Вось гісторыя таленавітага мастака, што вымушаны туліцца ў аднапакаёўцы, без майстэрні, днямі мерзнуць каля «Салона» на

праспекце ў надзеі прадаць карціну і ўвечары вяртацца дамоў ні з чым! А яго творы маглі б упрыгожыць карцінныя галерэі Еўропы! Вось гісторыя пра дзяўчынку, якая заслужыла прынца, заслужыла сваёй духоўнай і знешняй прыгажосцю! Тут, на гэтых лістах, гісторыя будзённага, беспрасветнага жыцця, у якое, як свежы вецер, урываецца раптам добры прынц... Так! Хай у выглядзе маны! Але як змяняюцца гэтыя людзі! Якія перад імі разгортваюцца перспектывы! Як ім адразу цікава робіцца жыць!

Званок у дзверы. Н а т а ш а бяжыць; чуваць, як гаворыць з кімсьці, хутка вяртаецца. Трымае нешта, заціснутае ў кулаку.

...І фінал, Наташа, у мяне быў напісаны даўно! Хэпі энд... Шчаслівы фінал! Багаты кватарант жэніцца з дзяўчынкаю, яны едуць у Швецыю, бацькі дзяўчынкі дажываюць свой век спакойна і радасна, ні ў чым не маючы патрэбы, мастак атрымлівае ў дарунак вялізную кватэру ў цэнтры Мінска, з майстэрняю...

Рыгор смяецца.

Я хацеў падараваць вам казку! Хацеў хоць на паперы даць кожнаму з вас тую долю, якую ён заслугоўвае! Светлую, шчаслівую долю! Але я памыліўся... Вам непатрэбны казкі!

Невялікая паўза.

Н а т а ш а *(працягваючы Гану тры стодаляравыя купюры)*. На... Ганарар. Ці аванс. За казку!

А л е н а Я ў г е н а ў н а. Наташа... адкуль у цябе?! Хто гэта прыходзіў?!

Н а т а ш а. Сяброўка. Я пазычыла ў яе.

В а с і л ь В а с і л ь е в і ч. Як... пазычыла?! А аддаваць чым?!

Н а т а ш а *(злосна смяецца)*. Чым? Сказала б я табе, каб ты не быў мой бацька...

А л е н а Я ў г е н а ў н а *(хапаючыся за сэрца, закрываючы сабе далоняю рот)*. Наташка!!!

Ган, бледны, маўчыць. Купюры ляжаць на стале перад ім. Рыгор бярэ даляры, разглядае.

Р ы г о р *(па-філасофску).* І ўсё з-за такой дрэні... З-за трох зялёных паперак з партрэтамі... *(Наташы, іншым тонам, строга.)* Калі яшчэ раз такое ад цябе пачую — здыму папругу! Пры бацьках! І адсвішчу па адным месцы! Забірай грошы і заўтра ж — чуеш? — заўтра ж аддай іх! *(Налівае сабе крыху, выпівае, лезе ў кішэню і высыпае на стол скамечаныя купюры даляраў. Смяецца.)* Сябры, я прадаў сёння карціну! За тысячу даляраў. Калі хочаш эфекту, Наташа,— забірай, кінь яму ў твар гэтую без малога тысячу!

Ган раптам паволі, дзелячы рукапіс на часткі, пачынае рваць лісты. Усе глядзяць на яго моўчкі, не стрымліваюць. Дробныя пялёсткі паволі кружацца, падаюць, засцілаюць падлогу каля стала.

Г а н *(парваўшы апошні ліст).* Да пабачэння... *(Прыгорбіўшыся, ідзе да дзвярэй.)*

Н а т а ш а. Пачакай!

Ган спыняецца.

Скажы, адкуль у цябе былі тыя трыста даляраў? Толькі не хлусі, дзеля бога!

Г а н *(стаіць бокам да ўсіх).* Маё апавяданне надрукавалі ў амерыканскім часопісе... І прыслалі ганарар.

Н а т а ш а *(адчайна).* Ну ты ж хлусіш!

Р ы г о р. Не. Мне хлопцы расказвалі, я нават той часопіс бачыў.

Г а н выходзіць. Н а т а ш а выбягае следам. Чуваць прыглушаныя галасы. Вяртаюцца абое; Н а т а ш а, строгая, сур'ёзная, вядзе Г а н а за руку, падводзіць да стала, прымушае сесці на сваё месца. Сама сядае побач і не выпускае яго рукі. Абое маўчаць.

*(Ашаломлена.)* Не можа быць!

Пасля невялікай паўзы.

Ці ўсё правільна? Так, Наташа? Хіба мы не жывыя людзі? Пабыў чалавек месяц, расплаціўся... У чым, падумаўшы, яго віна? У тым, што замест багатага аказаўся бедным кватарантам? Дык усе мы, па вялікім рахунку, кватаранты — людзі ў гэтым свеце часовыя... Што хлусіў? Дык адвучыцца! Праўда, Алесь? Хлопец ты недурны, калі да Амерыкі здолееў дабрацца... Адвучышся! Напішаш свой твор... Магчыма, нават і надрукуешся... А там — хто ведае? — і сапраўды ў Швецыю з'ездзіш! З Наташаю, вядома! А мы вып'ем за вас! За ваша будучае шчасце! Праўда, Васільевіч? Праўда, Алена?

Усе маўчаць. Пад маўчанне —

заслона.

*Канец*

*1996*